*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 51 (787)** **20 СНЕЖНЯ 2006 г.**

# *З Калядамі, шаноўныя беларусы!*

## На Каляды ўзрастае папулярнасць беларускай мовы



*Хутка Каляды, Новы год, і трэба спяшацца, каб павіншаваць родных, сяброў, знаёмых са святамі. І хоць новае пакаленне выкарыстоўвае для гэтага ў асноўным мабільныя тэлефоны, дасылае SMS, электронныя лісты, якія даляхаюць да адрасата амаль імгненна, засталася старая добрая традыцыя – дасылаць блізкім паштоўкі. Ці ёсць ў продажы беларускамоўныя віншавальныя паштоўкі, высвятляла карэспандэнтка Свабоды.*

Некалькі гадоў таму гэта сапраўды было праблемай. Віншавальныя паштоўкі былі ў асноўным расейскамоўнымі. Перад святамі я накіравалася на менскі паштамт. Гутару з наведнікамі адмысловага стэнду.

*Карэспандэнтка:*

- Зараз на паштамце ёсць цэлы стэнд – "Беларускія паштоўкі" – навагоднія, калядныя. Як вы ацэньваеце выбар?"

*Дзяўчына:*

- Калі шчыра, хацелася, каб было яшчэ значна больш. Але вельмі прыгожыя!

*Карэспандэнтка:*

- Тут і Новы год, і Каляды, і Раство, Божае нараджэнне. А вы набываеце беларускім сябрам альбо за мяжу збіраецеся пасылаць?

*Дзяўчына:*

- Частка сяброў у мяне тут, у Беларусі, частка родных у Расеі жыве, у Польшчы. І я хачу менавіта беларускія паштоўкі, таму што калі выбіраеш на расейскай мове – гэта звычайна, а калі дасылаеш на роднай, беларускай мове – гэта вельмі прыгожа, і родныя вельмі рады.

*Карэспандэнтка:*

- Як вам асартымент?

*Спадар:*

- Вельмі добры, падабаецца.

*Карэспандэнтка:*

- А выбіраеце замежным сябрам ці беларускім? Чаму менавіта на беларускай мове?

*Спадар:*

- Якія прыгажэйшыя, тыя і выбіраем".

*Спадарыня:*

- У Расею хочам даслаць. І канечне, толькі пабеларуску.

*Дзяўчына:*

- Я хачу даслаць за мяжу сваім сябрам, у Англію. Ім, напэўна, будзе цікава атрымаць менавіта беларускія паштоўкі. Вельмі прыгожыя паштоўкі, на любы густ – тут і праваслаўныя храмы, і беларуская прырода. Выбар проста цудоўны!"

Сапраўды, выбіраць ёсць з чаго – я налічыла больш за чатыры дзясяткі разнастайных беларускіх паштовак – з Калядамі, са святам Божага нараджэння, з Новым годам. У савецкія часы, не сакрэт, паштоўкі выпускаліся толькі навагоднія, Пасля таго, як Беларусь стала незалежнай, з'явіліся паштоўкі "З Раждаством". Таварыства беларускай мовы стала на абарону чысціні мовы і пачало ліставанне з Міністэрствам сувязі і інфарматыкі.

Распавядае старшыня ТБМ Алег Трусаў:

- Мы пісалі лісты, што гэта "раждаство" ні ў адным слоўніку беларускай мовы не прысутнічае, а "раждаство" па-беларуску і ёсць Каляды. Ну, а пасля таго, як на абарону "раждаства" выступіла Руская праваслаўная царква, цяпер мы маем самыя розныя варыянты: у нас ёсць і з Калядамі, і з Новым годам, і з Раждаством, і з Раством, і са святам Божага нараджэння. Прычым, я што заўважыў: у першую чаргу народ раскупіў не з "Раждаством", а з "Божым нараджэннем". Ужо "З Божым нараджэннем" амаль няма ў продажы, а "Раждаство" стаіць.

*Цікавыя фотаздымкі, прыгожыя малюнкі, сучасны дызайн, цудоўная паліграфія. І выпускае гэта ўсё "Белпошта", адмысловы аддзел выдання знакаў паштовай аплаты. Дарэчы, лепшыя ўзоры адбіраюцца на конкурснай аснове.*

## Помнік Валянціну Таўлаю

У Менску ў майстэрні скульптара Ігара Голубева ідзе праца над бюстам беларускага паэта Валянціна Таўлая для горада Ліды. Кіруе праектам Анатоль Белы.

Бюст плануецца ўстанавіць каля замка перад домікам Валянціна Таўлая, з якога зараз высяляецца спорткамітэт, і дзе ў 2007 годзе будзе адкрыты Лідскі літаратурны музей.

Днямі ў Ліду дастаўлены макет бюста ў мяккім матэрыяле. Сам помнік будзе адліты ў метале (бронза або сілумін) велічынёю 1,5 - 2 натуры.

Скульптар Ігар Голубеў вядомы такімі творамі як помнікі Напалеону Ордзе ў Іванава, Ефрасінні Полацкай у Менску, помнікдыспут Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага ў Менску, помнікі Язэпу Драздовічу ў Менску, Уладзіміру Караткевічу ў Оршы, Ефрасінні Полацкай у Полацку і інш. Пры выкананні многіх з гэтых праектаў кіраўніком быў Анатоль Белы.

Постаць Валянціна Таўлая ўшанавана ў Лідзе ў назве вуліцы, тут праходзіць штогадовы літаратурны конкурс імя Таўлая, напісаны многія літаратурныя творы пра Валянціна Таўлая, тут жыве шмат сваякоў паэта. Устаноўка помніка будзе яшчэ адной праявай нашай павагі да гэтага Творцы і Змагара.

***Яраслаў Грынкевіч.***



**На здымку:** макет бюста В. Таўлая.

## На Кальварыйскіх могілках адкрыты помнік Вацлаву Іваноўскаму

Больш двух дзясяткаў актывістаў розных грамадскіх арганізацыяў прыйшлі 16 снежня на менскія Кальварыйскія могілкі, каб ушанаваць памяць аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя Вацлава Іваноўскага. Забіты ў снежні 1943 года ў Менску невядомымі тэрарыстамі прафесар Іваноўскі быў пахаваны на Кальварыі, але ягоная магіла доўгі час была занядбаная.

Толькі напрыканцы 80-х гадоў на ёй з'явіўся драўляны крыж. А сёлета грамадская актывістка Людміла Ліцьвіна разам з аднадумцамі наладзіла збор сродкаў на помнік Вацлаву Іваноўскаму.

Невялікую гранітную стэлу з надпісам: **"Вацлаў Іваноўскі, 1880—1943"** асвяціў ксёндз з Кальварыйскага касцёла.

Вацлаў Іваноўскі – адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. У 1903 годзе Іваноўскі ўдзельнічаў у заснаванні Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады.

У 1906 годзе ўзначаліў славутую выдавецкую суполку "Загляне сонца і ў наша ваконца" ў Пецярбурзе.

1918 годзе – міністар асветы Беларускай Народнай Рэспублікі, рэктар Менскага педагагічнага інстытута.

Ад лістапада 1941 года – бургамістар Менска, заснавальнік нелегальнага Беларускага нацыянальна-дэмакратычнага аб'яднання.

***Альгерд Невяроўскі.***

***Дарагія суайчыннікі,беларускія патрыёты!***

***Таварыства беларускай культуры ў Літве віншуе Вас са святымі Калядамі і Новым 2007 годам.***

***Жадаем моцнага здароўя, асабістага шчасця і поспехаў на ніве змагання за незалежную, свабодную і дэмакратычную Беларусь, за светлыя ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі.***

*Рада Таварыства беларускай культуры ў Літве.*

# Свята " Першаліст" у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва

Шмат добрых традыцый у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Адна з іх – віншаванне першакурснікаў з іх новым крокам у жыцці – паступленнем ва універсітэт. Яны стаялі на школьных прыступках у святочным выпускным убранні і не ведалі, што іх чакае наперадзе. А сёння яны ўжо першакурснікі, студэнты 139 групы – будучыя спецыялісты, будучыя настаўнікі. З гэтай важнай падзеяй іх вырашылі павіншаваць выкладчыкі кафедры беларускай філалогіі, студэнты другога курса факультэта інфармацыйна–дакументных камунікацый і іх куратар Людміла Мікалаеўна Дзіцэвіч, студэнты старэйшых курсаў.

Уступнае слова ўзяла загадчык кафедры беларускай філалогіі Вольга Алексееўна Гуліцкая, якая павіншавала першакурснікаў і пажадала ім поспехаў. Да віншавання студэнтаў далучылася Алена Міхайлаўна Пісарэнка. Выдатны выкладчык, Алена Міхайлаўна піша вершы, кіруе творчай суполкай "Букет", дзе збіраюцца таленавітыя маладыя людзі і дзеляцца сваімі творчымі поспехамі. У "Букеце" ужо чакаюць адораных першакурснікаў.

А прыйшлі ва універсітэт сапраўды самыя здольныя. Усе выкладчыкі з зачараванасцю і гонарам глядзелі на таленавітых першакурснікаў. Стараста 1-га курса Вольга Крыжаноўская падзякавала ўсім выкладчыкам за цёплыя словы і прадставіла сваю групу.

Іна Галаванёва прапанавала ўвазе свае малюнкі. Больш за ўсе яна любіць маляваць жывёл. Адзін малюнак ствараецца больш за тры месяцы, калі прыходзіць натхненне. Вольга Ганусевіч вышывае крыжыкамі розныя выявы – ад нацюрморта да пейзажаў. Вікторыя Тылькович пяе цудоўныя беларускія песні не горш, чым эстрадная спявачка. Святлана Малейка пляце макрамэ і піша казкі, якія чытаюць нават на радыё. Адну з іх мы пачулі і былі заваражаныя таленавітасцю нашай першакурсніцы.



Колькі таленавітых мастакоў слова і справы ўвайшло ў наш храм навучання. Акрамя гэтага, яны праз пяць гадоў будуць несці веды ў свет. Гэтыя натхнёныя маладыя асобы з палкімі вачыма цягнуцца да ведаў і прагнуць творчасці.

Першакурснікі пазнаёміліся з выкладчыкамі беларускай кафедры, убачылі сваіх калег–студэнтаў старэйшых курсаў, якія ім расказалі пра студэнцкае жыццё: вясёлае, жартоўнае, працоўнае, цікавае і маладое. Студэнткі 4–га і 5-га курсаў паведамілі пра ўсе таямніцы стварэння будучых настаўнікаў. Расказалі пра педагагічную практыку – натхнялі першакурснікаў будучай прафесіяй.

Так прайшло яшчэ адно свята ў сценах Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, якое пасвяціла першакурснікаў у студэнты. У сваю чаргу, я пажадаю ім шмат цярпення, увагі і любові да таго шляху, які яны абралі, бо настаўнік – гэта найлепшая з прафесій у свеце.



*Вольга Глінская,*
стараста 439 групы факультэта інфармацыйна-дакументных камунікацый.
Фотаздымкі *Алены Мамонькі.*

# Кліча памяць

**10 снежня вёска Сейлавічы Нясвіжскага раёна святкавала сваае 420-годдзе.** Гэтае свята некалькі разоў пераносілася: хацелі зрабіць на Зельну - жніво, хацелі на Багача - бульбу трэба было капаць. Можа і яшчэ б аднеслі, ды ўжо няма куды, хутка і Каляды з Новым годам, а свята мусяла адбыцца сёлета і не магло не адбыцца, бо яго хацелі. Гэта першы юбілей вёскі, які тут святкуецца. Не зусім круглы, мо не зусім дакладны, але вельмі знакавы. Людзі захацелі адзначыць юбілей вёскі, захацелі згадаць пра свае карані. Магчыма гісторыкі знойдуць больш раннія звесткі пра Сейлавічы, магчыма аднясуць дату заснавання яшчэ глыбей у мінуўшчыну, гэта ўжо па сутнасці нічога не зменіць, людзі адчулі тую апору, якую заклалі пад гэтую вёску 20 пакаленняў яе папярэдніх жыхароў. Продкі не пакінулі сённяшнім сейлаўцам замкаў, палацаў, яркіх паданняў. Яны на працягу 20 пакаленняў проста аралі і баранілі гэтую зямлю, гадавалі дзяцей і ўнукаў, збераглі і перадалі праз стагоддзі вёску ў тры кіламетры даўжынёй з пасёлкамі і новым мікраёнам, вёску, не горшую за іншыя, а ў многім лепшую, дзе нават аграгарадок плануецца.




*Уезд у вёску*



*Рэй вядзе Марына Навоша*

Клуб на чале з дырэктарам Марынай Навоша падрыхтаваў святочную праграму, якая вялася на добрай беларускай мове, хаця многія эстрадныя нумары гучалі і па-руску.

Спявалі, танчылі, жартавалі, ушаноўвалі выбітных вяскоўцаў. Самая старэйшая 98-гадовая жыхарка Сейлавічаў на свята не прыйшла, а вось мама самай маленькай Каці Андрайчук атрымала падарунак з рук старшыні сельсавета.

На свяце была ўся тутэйшая ўлада і прадстаўнікі раёна, але магчыма больш важна, што не засталіся абыякавымі людзі, і ў разгар свята тут, як у добрыя старыя часы зноў не хапала месцаў, хоць і была самая сярэдзіна дня. А гэта значыць, што стаяць Сейлавічам, як і стаялі, адлічваць новыя гады і дзесяцігоддзі, пераходзіць ад дзядоў да ўнукаў на гонар і славу нашай Беларусі.

*Станіслаў Суднік.*





*Сейлавіцкія артысты*



*Гаспадары і госці*



***Старшыня сельсавета ўручае падарунак маме самай маладой сейлаўкі Каці Андрайчук, якая нарадзілася ў лістападзе 2006 г.***

*Падзея*

# “Рэп-вакацыі”: вулічныя рыфмы па-беларуску

Яшчэ адзін доказ таго, што беларускамоўны рэп (рэп — частка гарадской гіп-гоп-культуры) стаў рэальнай з'явай, слухачы атрымалі падчас нядаўна праведзенага ў Менску фэсту “Рэп-вакацыі-2006”. Ягоным арганізатарамі стала суполка БМАgroup і вядомы беларускі рэпер “Шляхта” – С. Давідзенка. Адзначу, што Сяржук паспрабаваў сябе не толькі ў якасці выканаўцы, але і як прадзюсер. Само асяроддзе рэп-выканаўцаў пачало вылучаць сваю эліту – крэатыўных арганізатараў, якім наканавана рухаць справу далей...

Аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары не дазволілі ажыццявіць на гэтых “Рэп-вакацыях” усё задуманае, але фэст стаў сапраўднай стартавай пляцоўкай для многіх беларускамоўных выканаўцаў. Напрыклад, для маладой рэп-каманды “Чорны квартал”. І хоць ім яўна не хапала майстэрства чыткі, а іхнія тэксты былі далёкія ад ўзроўню творчай сталасці, удзельнікі “Чорнага квартала” атрымалі неацэнны досвед выступу перад зацікаўленай публікай, а таксама магчымасць суаднесці свой узровень з больш вопытнымі выканаўцамі.

Напрыклад, з творчасцю МС ( МС — значыць, рэп-выканаўца-саліст) “Condor”, які прадэманстраваў арганічнасць вострых беларускамоўных тэкстаў і майстэрства выканання, а таксама, вядзення свайго выступу. Яго ж калега — МС “Goodwin”, таксама адзначыўся схільнасцю да дасканалага выканання, але вось з “арганічнасцю” былі праблемы: усё псавалі ягоныя рэмаркі “Спасибо!”, “До свидания!”. Калі рэпер цытуе ў тэксце Ф. Багушэвіча: “Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі...”, дык слухачы чакаюць адпаведных гэтым вялікім словам учынкаў. Для беларускамоўнага рэпера важна, каб не толькі ў песнях уздымалася тэма роднай мовы, але каб і ў самога выканаўцы прага гаварыць па-беларуску была жыццёвай неабходнасцю. Як, напрыклад, у МС “Шляхта” ці “Shekspeare-MC”. Гэтыя выканаўцы выказвалі свае адносіны да моўнай і сацыяльнай сітуацыі ў краіне. МС “Шляхта” з публіцыстычна-эмацыянальным зместам тэкстаў выступаў у абарону роднай мовы. Некаторыя тэксты Сяржука па структуры і функцыі набліжаліся да мастацкіх маніфестаў. І гэта зразумела: адзін з самых дасведчаных выканаўцаў – МС “Шляхта” слушна спрабуе абагульніць мэты і спраецыраваць кірункі беларускамоўнага рэпу.

Больш малады “Shekspeare-MC” тых ж мэтаў дасягае з дапамогай прыроджанай пластыкі, схільнасці да сатыры і гумару. Ягоны рэп-рэфрэн “Ё, ё! У нас бульба ё!”, як і рэфрэн “N.R.M.”-“Крамы” “Хавайся ў бульбу”, уваходзіць у аналы сучаснага гарадскога фальклору.

З прыхільнасцю слухачы прымалі і іншых перспектыўных чытальнікаў рэпу – дуэт “TROOL”, гурт “Sila Slova” і іншых.



*“Шляхта”*

Украінскія госці “Рэп-вакацыяў” – гурт “Эпіцэнтр Уніі” перад сваім выступам меў сумненні. Адзін з яго ўдзельнікаў прызнаўся слухачам: “Мы баяліся, што не зразумеем беларускую мову, але пасля таго, як паслухалі вашых выканаўцаў, мы адчулі, што нашы мовы вельмі блізкія. Мы разумеем беларусаў!” Упэўнены, што і беларусы маглі сказаць у адказ: “Мы таксама разумеем тое, пра што чытае рэп гурт “Эпіцэнтр Уніі”!

Адзначу, што такія творчыя кантакты вельмі спрыяльныя для развіцця гэтага напрамку сучаснага мастацтва, бо падчас іх адбываецца ўзаемаўзбагачэнне, як у мастацкім, так і ў выканаўчым плане.

Хэдлайнеры “Рэп-вакацыяў” – гурт “Чырвоным па Белым” выканаў некалькі кампазіцый са свайго дэбютнага альбома “Вулічныя байцы”, чым выклікаў шмат станоўчых эмоцый у сваіх прыхільнікаў. Пабачыць сваіх куміраў з “ЧпБ” – Krou I Imperator'a, паслухаць іх рэп “жыўцом” – гэта была іх мара! Для справядлівасці заўважу, нягледзячы на моўныя хібы тэкстаў “ЧпБ”, іх рэп можа зачапіць за жывое, крэўнае... Мо таму гурт усё часцей адносяць да лідараў беларускага рэпу.

Але такія адзнакі не даюць права ім дрэнна адгукацца пра сваіх калег па творчаму цэху. Ёсць такія прыкрыя спробы ў удзельнікаў гурту “Чырвоным па Белым”. У адной з кампазіцый яны неабгрунтавана “наязджаюць” на Аляксандра Памідорава. (Гэта той рэдкі выпадак, калі цытаваць тэкст не выпадае). Той, хто ведае Алеся, упэўнены, што такі паважаны музыка не заслугоўвае дрэнных слоў з боку “ЧпБ”. Перш чым кінуцца ў музычна-публічныя “разборкі”, трэба памятаць, што ўсе мы беларусы і павінны трымацца адзін аднаго. Толькі так можна дасягнуць поспеху! Добра, каб Krou і ягоная каманда зразумелі гэтую ісціну...

Так, “Рэп-вакацыі-2006” сталі здабыткам гісторыі. На жаль, не ўсё задуманае удалося ажыццявіць. У прыватнасці, не адбыўся фрыстайл – рыфмаваны двубой паміж рэп-выканаўцамі, якія заўсёды выклікаюць жывую рэакцыю слухачоў. Але не бяда: арганізатары абяцаюць прыхільнікам беларускамоўнага рэпа новыя сустрэчы ў нас наступным годзе.

*Анатоль Мяльгуй, фота аўтара.*

*“Шэкспір”*



*“Чырвоным па беламу”*

# З паэзіяй па жыцці

Яна чароўная, яна прыгожая, яна захапляе і адрывае душу чалавека ад зямлі. Яна прымушае забыць штодзённыя чалавечыя клопаты і адкрывае для яго новы, яшчэ не зведаны свет. Яна – паэзія.



Нядаўна адбылася сустрэча сяброў літаратурнага аб'яднання “Суквецце”, якім кіруе паэт Міхась Мельнік, з моладдзю. На гэты раз пасяджэнне прайшло ў Маладзёжным цэнтры, які знаходзіцца ў інтарнаце Лідскага каледжа.



На сустрэчу з навучэнцамі і выкладчыкамі навучальнай установы былі запрошаны вядомыя на Лідчыне літаратары і барды. Сярод іх Станіслаў Суднік, Пятро Макарэвіч, Васіліса Пазнухова, Аляксандр Слука. Сяржук Чарняк. Генадзь Зубрыцкі. Алесь Хітрун, Вольга Верасняк, Аксана Басалай, Людміла Русь, а таксама пачынаючыя паэты, навучэнцы каледжа: Вольга Цяслюк, Яўген Пац, Іна Міхалюк і іншыя.



Васіліса Пазнухова пранікнёна спявала песні на свае словы, захапіў прысутных песнямі і бард Генадзь Зубрыцкі. Сяржук Чарняк выканаў песні на словы беларускіх класікаў і мясцовых аўтараў. Станіслаў Суднік пазнаёміў слухачоў са сваімі паэтычнымі творамі на гістарычную тэму. Пятро Макарэвіч чытаў свае пераклады на беларускую мову твораў Адама Міцкевіча. Міхась Мельнік эмацыянальна чытаў свае творы, напісаныя ў часы маладосці, і новыя. Разам з тым выступалі і пачынаючыя паэты Лідчыны, якія даюць надзею на будучае беларускай літаратуры, на працяг вялікага скарба паэзіі, перададзенага нам ад продкаў.





*Вольга Цяслюк, навучэнка Лідскага каледжа.*

*На здымках: спявае Сяргей Чарняк; у зале; свае творы чытаюць Алесь Хітрун, Вольга Цяслюк, Міхась Мельнік.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 18. 12. 2006 г. у 10.00. Замова № 2600.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.